50 адценняў акцёра Чэчанева
старонка 20-21

Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

4 мая 2018 года №18 (1201)



# Са святам Перамогі!

# "Мару толькі пра адно – каб дзеці і ўнукі не ведалі вайны"

## У рэгіёне засталося 180 ветэранаў

У 2014 годзе ў рэгіёне жыло 370 ветэранаў Другой сусветнай вайны. Сёлета іх засталося 180. З іх удзельнікаў баявых дзеянняў – 111 чалавек.

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечанскім раёне 75 ветэранаў вайны. Сярод іх 11 інвалідаў вайны, 47 удзельнікаў баявых дзеянняў, 15 працаўнікоў тылу, адзін прыфрантавік чыгункі і адзін блакаднік Ленінграда.

**ВІЛЕЙКА**

На Вілейшчыне цяпер 36 ветэранаў. Сярод іх 18 удзельнікаў баявых дзеянняў, восем інвалідаў, дзевяць працаўнікоў тылу і адзін блакаднік.

**ВАЛОЖЫН**

У Валожынскім раёне 20 ветэранаў вайны, з іх 14 удзельнікаў баявых дзеянняў, шасцёра ўдзельнікаў працоўнага фронту.

**МЯДЗЕЛ**

У Мядзельскім раёне 18 ветэранаў. Сярод іх 13 удзельнікаў баявых дзеянняў, тры інваліды, адзін працаўнік тылу, адна блакадніца.

**СМАРГОНЬ**

На Смаргоншчыне 21 ветэран. Сярод іх 11 удзельнікаў баявых дзеянняў, два інваліды, пяцёра тылавікоў, два блакаднікі, адзін прыфрантавік чыгункі.

**АШМЯНЫ**

У Ашмянскім раёне 9 ветэранаў. Сярод іх сем удзельнікаў баявых дзеянняў, адзін тылавік і адзін інвалід вайны.

**АСТРАВЕЦ**

На Астравеччыне жыве адзін ветэран Вялікай Айчыннай.

Паводле Міністэрства працы і сацабароны насельніцтва, цяпер у Беларусі жыве 8 412 ветэранаў вайны, улічваючы інвалідаў. У Гродзенскай вобласці іх 605, у Мінскай – 1 125.

Зоя ХРУЦКАЯ.

старонка 19

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.



ISSN 1991–7155



# Інвалідаў падтрымалі адзінагалосна, з зацвярджэннем плана па ідэнтыфікацыі жывёл вырашылі пачакаць

## У Вілейцы правялі чарговую сесію Савета дэпутатаў

ВІЛЕЙКА

**27 красавіка на трэцяй сесіі Савета дэпутатаў абмеркавалі два пытанні. Адно тычылася сацыяльнай падтрымкі інвалідаў, другое – ідэнтыфікацыі прыватных сельскагаспадарчых жывёл.**

### Інвалідам кампенсуюць транспартныя выдаткі

У Вілейскім раёне жывуць пяць інвалідаў, якім неабходная працэдура гемадыялізу. У Вілейцы гэтага не робяць, таму хворым з пэўнай перыядычнасцю трэба ездзіць у Маладзечна. **Марына Круцько**, намеснік начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, прапанавала дэпутатам праект рашэння аб мерах па падтрымцы такіх хворых.

У ім гаворка ішла пра тое, каб людзям, якім неабходны гемадыяліз, кампенсаваць праезд на працэдуру і назад. Ва ўпраўленні такі досвед ужо ёсць. Па словах Марыны Круцько, нават калі ў раёне было 12-13 такіх хворых, грошы на кампенсацыю праезду заўсёды знаходзілі. Праект рашэння дэпутаты падтрымалі адзінагалосна.

### Навошта каровам пашпарты

Упраўленне сельскай гаспадаркі райвыканкама прадставіла праект плана мерапрыемстваў па ідэнтыфікацыі сельскагаспадарчых жывёл на прыватных падворках.

Закон пра тое, што сельскагаспадарчыя жывёлы павінны быць ідэнтыфікаваныя і мець электронныя пашпарты, прынялі ў Беларусі 2015 годзе. Прынялі для таго, каб за жыццём жывёлы ад нараджэння да забою можна было сачыць і каб у магазіны і на рынкі трапляла толькі якасная сельскагаспадарчая прадукцыя.

Біркі патрэбныя толькі тым жывёлам, гаспадары якіх плануюць здаваць сельскагаспадарчую прадукцыю. Калі ў жывёлы няма біркі, то ні мяса, ні малако дзяржава ў гаспадароў не возьме. Біркаванне неабходнае для буйной рагатай жывёлы, коней, свінняў, авечак і коз.

Усе дадзеныя пра біркаваную жывёлу падаюцца ў рэспубліканскі Цэнтр інфарматызацыі сістэм у жывёлагадоўлі. У кожным раёне для лепшай каардынацыі працы ёсць рэгіянальны прадстаўнік цэнтра.

Ідэальна сістэма выглядае так: кожны гаспадар мае асабісты логін і пароль, можа ўвайсці ў электронны кабінет і ўнесці патрэбныя змены ў жыцці сваёй жывёлы. Напрыклад, пра тое, што яго карова нарадзіла бычка.

У райвыканкаме распавялі, што на Вілейшчыне 1040 кароў. Летась для іх упершыню закупілі біркі, цэнтралізавана сабраўшы грошы ў гаспадароў. Аднак многія старшыні сельсаветаў Вілейшчыны выказаліся на сесіі пра тое, што сістэма не прадуманая да канца. Напрыклад, з увядзеннем біркавання вялікая дадатковая нагрузка кладзецца на сельсавет, дзе і без таго хапае спраў.

Пакуль яшчэ старшыні сельсаветаў павінны сачыць, у каго ацялілася карова і думаць пра набыццё бірак. Хаця ў законе пазначана, што гэтым павінны займацца самі гаспадары. Але ж не кожны вясковец, асабліва сталага веку, зможа працаваць у інтэрнэце. Улічваючы, што пытанняў да біркавання яшчэ шмат, да яго вырашылі звярнуцца на наступнай сесіі ў чэрвені.

Напрыканцы старшыня Савета дэпутатаў **Алена Чабатар** звярнула ўвагу на добраўпарадкаванне тэрыторыі. Па яе словах, гэта пытанне актуальнае заўсёды, а вясной – асабліва.

Аксана ЯРАШОНАК.




У 2017 годзе на Вілейшчыне ўпершыню закупілі біркі для свойскай жывёлы.



### Каманда праекта "Будуем утульную радзіму" наведала Вілейку

ВІЛЕЙКА

На тым тыдні маладыя людзі, што плануюць зладзіць праект "Будуем утульную радзіму", наведалі Вілейку.

Па словах менеджара **Андрэя Лохача**, актывісты сустрэліся з мясцовым каардынатарам праекта **Арцёмам Супрановічам**. Таксама пазнаёміліся з галоўным архітэктарам Вілейшчыны **Дзмітрыем Гарланавым**, які паказаў горад, распавёў, як змянялася Вілейка за апошнія гады, паказаў месцы, дзе ён хацеў бы бачыць муралы, раён горада, у якім варта добраўпарадкаваць двары.

Пасля актывісты сустрэліся з намеснікам кіраўніка райвыканкама **Святланай Дзяругай**. Па словах Андрэя Лохача, праект ёй спадабаўся і яна была б не супраць рэалізацыі яго ў горадзе.

Засталося толькі падаць праект на ўзгадненне з кіраўніком горада.

– Вілейка нам вельмі спадабалася, – падзяліўся Андрэй. – Першы раз мы там былі зімой і не вельмі па горадзе хадзілі. Цяпер жа Дзмітры Гарланаў паказаў нам яе, параіў, дзе лепш працаваць. Пашкадавалі, што не ўзялі добры фотаапарат, каб здымаць прыгожыя вілейскія краявіды. Фатаграфавалі на тэлефон.

Сталічныя актывісты наведалі Вілейскі дзяржаўны каледж.

– Уразіла добраўпарадкаваная тэрыторыя каледжа, – кажа Андрэй. – І тое, што ўсю гэту прыгажосць – лаўкі, цікавыя экспазіцыі – робяць самі навучэнцы пад кіраўніцтвам яго дырэктара **Ігара Кіцікава**.

Аддзел інфармацыі.

# Як чытаць жыроўку

**Усе паслугі ў жыроўцы падзеленыя на групы. Спачатку ідуць асноўныя ЖКП, якія аплачваюцца па тарыфах, якія субсідзіруюцца, затым – па эканамічна абгрунтаваных тарыфах.**

Таксама ў жыроўцы ў асобны раздзел вынесены "расходы, якія вяртаюцца". Сёння гэта дзве пазіцыі: расходы на асвятленне месцаў агульнага карыстання і працу абсталявання, а таксама расходы на электраэнергію, выдатkаваную на працу ліфта.

## Асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі па тарыфах, якія субсідзіруюцца

**1. Тэхнічнае абслугоўванне**
Кошт паслугі разлічваецца зыходзячы з агульнай плошчы кватэры. На кожнага зарэгістраванага чалавека належыць прымяненне тарыфаў, якія субсідзіруюцца ў разліку 20 $м^2$, плюс яшчэ 10 $м^2$ – на сям'ю. Калі прапісаны 1 чалавек, то норма складзе 30 $м^2$, калі два, то 50 $м^2$. За астатнюю плошчу аплата налічваецца па эканамічна абгрунтаваных тарыфах.

**2. Капітальны рамонт**
Сума прывязаная толькі да плошчы і не залежыць ад колькасці зарэгістраваных. Для жылых памяшканняў ужываецца тарыф, які субсідзіруецца, – цяпер ён складае 0,0953 рубля за 1 $м^2$, для нежылых – эканамічна абгрунтаваны.

**6. Цеплазабеспячэнне (ацяпленне)**
Калі ў доме ёсць агульнадамавы лічыльнік, колькасць цяпла, затрачанага на ацяпленне усяго дома, дзелім на агульную плошчу ўсіх кватэр у доме. Гэты вынік памнажаем на плошчу сваёй кватэры, атрымліваем колькасць цяпла (Гкал), затрачанага на яе ацяпленне. Потым гэтыя Гкал памнажаем на тарыф.
Калі ў доме няма лічыльніка, то плата за ацяпленне залежыць ад агульнай плошчы кватэр і сярэдніх нарматываў расходу цеплаэнергіі на ацяпленне квадратнага метра такой агульнай плошчы. Паслуга аплачваецца па поўным тарыфе, калі ў кватэры ніхто не зарэгістраваны або жыллё здаецца ў наём для кароткатэрміновага пражывання.

от 15.02.2018 12:27:59

| № п/п | Перечень услуг | Единица измерения услуги | Объем (кол-во) | Тариф (рублей) | Начислено (рублей) | Сумма соц. льготы (рублей) | Сумма перерасчета (рублей) | Итого сумма (рублей) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Основные жилищно-коммунальные услуги (по субсидируемым тарифам): | | | | | | | | |
| 1 | Техническое обслуживание | м.кв. | 50 | 0.1127 | 5.64 | 0.00 | 0.00 | 5.64 |
| 2 | Капитальный ремонт | м.кв. | 50.1 | 0.0953 | 4.77 | 0.00 | 0.00 | 4.77 |
| 3 | Горячее водоснабжение (подогрев воды) | Гкал | 0.1272 | 16.9259 | 2.15 | 0.00 | 0.00 | 2.15 |
| 4 | Холодное водоснабжение | м.куб. | 2 | 0.8053 | 1.34 | 0.00 | 0.00 | 1.34 |
| 5 | Водоотведение (канализация) | м.куб. | 2 | 0.6191 | 0.96 | 0.00 | 0.00 | 0.96 |
| 6 | Теплоснабжение (отопление) | Гкал | 1.0764 | 16.9259 | 18.22 | 0.00 | 0.00 | 18.22 |
| 7 | Обращение с твердыми коммунальными отходами | м.куб. | 0.2403 | 7.7990 | 1.87 | 0.00 | 0.00 | 1.87 |
| Итого за основные жилищно-коммунальные услуги | | | | | 34.95 | 0.00 | 0.00 | 34.95 |
| Основные жилищно-коммунальные услуги (по тарифам, обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат): | | | | | | | | |
| 1 | Техническое обслуживание | м.кв. | 0.1 | 0.1205 | 0.01 | 0.00 | 0.00 | 0.01 |
| Итого за основные жилищно-коммунальные услуги | | | | | 0.01 | 0.00 | 0.00 | 0.01 |

**3. Гарачае водазабеспячэнне (падагрэў вады)**
Кошт цеплаэнергіі, затрачанай на падагрэў вады на ўсім доме, размяркоўваецца паміж кватэрамі прапарцыйна расходу гарачай вады ў кожнай. Незалежна ад расходу кошт падагрэву вады разлічваецца па тарыфе, які субсідзіруецца пры ўмове, што ў кватэры зарэгістраваны хаця б адзін чалавек.

**4. Халоднае водазабеспячэнне (халодная вада)**
У гэтай графе ўлічваецца ўся вада, якая выцекла з вашых кранаў. Норма на аднаго прапісанага - 140 л у суткі. Калі ў месяцы 28 дзён, то гэта 3,92 $м^3$; 30 дзён – 4,2 $м^3$; 31 дзень – 4,34 $м^3$ у месяц. Гэтыя аб'ёмы аплачваюцца па льготным тарыфе. Уся астатняя вада аплачваецца па поўным тарыфе.

**9. Санітарнае ўтрыманне дапаможных памяшканняў**
Для разліку сумуюцца ўсе выдаткі па санітарным утрыманні і дзяляцца на колькасць чалавек, за вылікам дзяцей да 7 гадоў. Ёсць важны нюанс – сума не можа быць вышэй за 0,56 рубля з чалавека. Дзяржава тарыф не субсідзіруе.

**5. Водаадвядзення (каналізацыя)**
Тут улічваюцца тыя ж паказанні лічыльнікаў вады (гарачай і халоднай ў суме) і дзейнічаюць тыя ж нарматывы. У межах нормы плата налічваецца па тарыфе, які субсідзіруецца. Усё, што вышэй за норму, даражэй.

**7. Абыходжанне з цвёрдымі камунальнымі адходамі (вываз смецця)**
Плата залежыць ад колькасці тых, хто жыве ў кватэры. Тарыф на паслугу вызначаецца мясцовымі ўладамі. Калі ў кватэры ніхто не зарэгістраваны, то спаганяецца тарыф за аднаго ўмоўнага жыхара.

## Дадатковыя жыллёва-камунальныя паслугі па эканамічна абгрунтаваных тарыфах і расходы, якія вяртаюцца

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Основные жилищно-коммунальные услуги (по тарифам, обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат): | | | | | | | | |
| 1 | Техническое обслуживание | м.кв. | 0.1 | 0.1205 | 0.01 | 0.00 | 0.00 | 0.01 |
| Итого за основные жилищно-коммунальные услуги | | | | | 0.01 | 0.00 | 0.00 | 0.01 |
| Возмещаемые расходы: | | | | | | | | |
| 1 | Электроэнергия на освещение вспом. помещений и работу оборудования, за исключением лифтов | чел. | 2 | 0.2400 | 0.48 | 0.00 | 0.00 | 0.48 |
| Итого за возмещаемые расходы | | | | | 0.48 | 0.00 | 0.00 | 0.48 |
| Всего начислено | | | | | **35.44** | **0.00** | **0.00** | **35.44** |

Телефоны ЖРЭУ-4:
бухгалтерия -тел. 55-38-49
паспортисты-тел .50-55-69
диспетчер- тел.58-14-31
Молодечноводоканал - тел.58-12-65 ; 74-61-28

| | |
|---|---|
| Итого начислено | 35.44 |
| Переходящий остаток(задолженность; средства, зачисленные в счет будущих платежей) | 0.00 |
| Пеня на 31.01.2018 | 0.00 |
| Сумма безналичной жилищной субсидии | 0.00 |
| Земельный налог | 0.01 |
| Арендная плата за земельный участок | 0.00 |
| К ОПЛАТЕ | 35.45 |

**1. Электраэнергія, якая ідзе на асвятленне дапаможных памяшканняў** – тамбураў, пад'ездаў.
Гранічны тарыф для асвятлення месцаў агульнага карыстання – 0,46 руб. з чалавека ў месяц (акрамя дзяцей да 7 гадоў).

### Што яшчэ можна даведацца з жыроўкі

Які працэнт ад кошту ЖКП аплачваюць жыхары дома.

Якая агульная плошча ўсіх кватэр, тамбураў і лесвіц у доме.

Колькі халоднай і гарачай вады спажыў дом.

Колькі электраэнергіі пайшло на асвятленне пад'ездаў, на працу ліфтаў.

Колькі жыхароў удзельнічае ў аплаце ЖКП па агульнадамавых лічыльніках цяпла, вады і электраэнергіі.

Колькі патрацілі арганізацыі на бягучы рамонт, тэхабслугоўванне, санітарнае ўтрыманне дома ў разліковым месяцы.

### Што за слова "жыроўка"

Жыроўка – папера-рахунак з ЖРЭУ (жыллёва-рамонтна-эксплуатацыйнага ўчастка). Менавіта ім даручана было рабіць разлік картплаты ў часы нашых мам і бабуль. І каб не гаварыць "жэрэуоўка", спрасцілі да "жэроўка" і далей "жыроўка".

### Яшчэ адна версія

Да сярэдзіны 60-х аплачвалі камунальныя паслугі ў СССР у паштовых аддзяленнях, а ім аддзяленні Камунальнага банка ці Дзяржбанка СССР адкрывалі жырарахункі, адпаведна дакумент, які выкарыстоўваецца сёння – форма 4ПД, тады называўся "Жыра загадам" ці проста "Жыра" – вось таму і жыроўка.

**Наталля ТУР.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.04 руб. | 3.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2,0032 | **2,0187** |
| Еўра | 2,4438 | **2,4253** |
| Злоты, 10 | 5,8009 | **5,6778** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2454 | **3,1837** |
| Грыўня, 100 | 7,6240 | **7,7204** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **25.04** | **2.05** |
| Еўра | 2.4150/2.4470 | **2.4100/2.4400** |
| Долар ЗША | 1.9800/2.0080 | **1.9950/2.0350** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 25.04 Цана руб. | 2.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,0 | **12,00** |
| Карп "Элітны" | - | **-** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,85 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 3,80 | **2,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,80 | **4,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,75 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,30 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 1,50 | **1,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,00 | **1,80** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 3,99 | **3,85** |
| Перац, 1 кг | 4,95 | **7,80** |
| Радыс, 1 кг | 2,00 | **2,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,79 | **0,79** |
| Часнок, 1 кг | 4,99 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,20 | **2,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,95 | **2,49** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **5,40** |
| Гранаты, 1 кг | 8,00 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **3,20** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,79 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Клубніцы, 1 кг | - | **8,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,29 | **1,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | - | **-** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць жыхарку Валожыншчыны, якая 21 сакавіка з’ехала ў Мінск і знікла

ВАЛОЖЫН

Валожынскія следчыя шукаюць **Вікторыю Станіславаўну Адамовіч** 1982 года нараджэння, ураджэнку Мінска.



21 сакавіка яна пакінула месца жыхарства і знаходжання, размешчанага па адрасе: **Валожынскі раён, вёска Пятрова, д.2** і з’ехала ў Мінск. Назад не вярнулася і да цяперашняга часу яе месцазнаходжанне не ўстанавілі.

**Прыкметы**: на выгляд каля 30-35 гадоў, сярэдняга росту (160-164 см), хударлявая, трохкутны з вяснушкамі твар, сярэдні лоб, дугападобныя бровы, карыя вочы, прамыя кароткія валасы светла-русага колеру, звонкі голас, ясная гаворка, памер абутку 36-37.

**Была апранутая** ў кароткую зялёную куртку з капюшонам, карычневыя штаны з палоскамі, карычневыя боты на абцасах. Пры сабе была жаночая белая сумка, мабільны тэлефон, пашпарт.

**Асаблівыя прыкметы**: курыць.

Грамадзян, якія ведаюць пра месцазнаходжанне Вікторыі Адамовіч, просім паведаміць у Валожынскі РАУС па тэлефонах: **(8-01772) 553 02, 54021, (8-029) 685 53 02, (8-029) 507 66 98** ці **102**.

**Аксана САГАДЗІН, следчая Валожынскага РАСК, маёр юстыцыі.**

НАВІНЫ

## Прадавец магазіна ў Валожыне за месяц патраціла 1835 рублёў

ВАЛОЖЫН

Не сваіх. Здарылася гэта яшчэ ў канцы 2016 года. Аднак Валожынскае райспажыўтаварыства амаль год чакала, што былая работніца сплаціць шкоду.

Не дачакаўшыся, напісалі заяву ў Валожынскі РАСК.

25-гадовая жанчына ўладкавалася на працу ў райспажыўтаварыства 14 снежня 2016 года. І звольнілася адтуль 16 студзеня 2017 года. Калі ў магазіне зрабілі пералік, то не далічыліся 1835 рублёў.

Аказалася, што прадавец брала з касы грошы і тавар у магазіне. А таксама давала тавар сваім знаёмым “пад чэснае слова”.

– Узбуджаная крымінальная справа, – расказаў старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік.**

**Наталля ТУР.**

## Вандалы знеслі інфармацыйны стэнд пра Касуту і Піліпа Орліка

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося ў вёсцы Касута, на радзіме ўкраінскага гетмана Піліпа Орліка. Знішчаны стэнд з інфармацыяй пра аўтара першай украінскай канстытуцыі.

Злачынства было здзейсненае паміж 27 і 30 красавіка, прыкладна за месяц да дня смерці Піліпа Орліка. Штогод 24 мая ўкраінскія і беларускія патрыёты прыязджаюць у вёску Касута, каб ушанаваць памяць сына беларускай зямлі і героя Украіны.

На стэндзе была размешчаная інфармацыя пра гісторыю вёскі і біяграфія ўкраінскага грамадска-палітычнага і вайсковага дзеяча, гетмана Запарожскага войска Піліпа Орліка.

Стэнд быў усталяваны вілейскімі краязнаўцамі 2 верасня 2015 года ля каменя ў памяць Піліпа Орліка.

Стэнд не зламалі, а выкапалі і вывезлі на аўтамабілі. На думку сяброў вілейскай суполкі таварыства аховы помнікаў, стэнд знеслі з палітычных прычын.

**Аддзел інфармацыі.**

## На БелАЭС было кароткае замыканне сілавога кабелю

АСТРАВЕЦ

17 лютага 2018 года пажару на БелАЭС, пра які паведаміла Аб’яднаная грамадская партыя, не было. Пра гэта Еўрарадыё паведаміў афіцыйны прадстаўнік МНС Беларусі **Віталь Навіцкі.**

“У гэты дзень было кароткае замыканне сілавога кабелю, які вядзе да вежавага крана, без далейшага гарэння. Падраздзяленні МНС не прыцягваліся, ліквідацыі не было, паколькі не было пажару”, – кажа Навіцкі.

25 красавіка на сайце АГП з’явіўся артыкул, у якім актывіст антыядзернага руху, жыхар Астравецкага раёна **Мікалай Уласевіч** распавёў пра “вялікі пажар”, які адбыўся 17 лютага на будаўнічай пляцоўцы атамнай станцыі.

**Паводле Еўрарадыё.**

# На Вілейскім вадасховішчы ратавалі парашутыста

ВІЛЕЙКА

**1 мая ў раёне гарадскога пляжа на Вілейскім вадасховішчы мужчына катаўся на кайце – спецыяльнай дошцы з парашутам.**



Фота kite.ru

Спякота апошніх дзён паклікала на вадасховішча кайтыстаў і купальшчыкаў.

У нейкі момант ён не ўтрымаўся і зваліўся ў ваду. Спрабаваў самастойна сабраць стропы – вяроўкі, якімі парашут мацуецца да дошкі, – але не змог.

Здарэнне заўважылі выратавальнікі. Яны пад’ехалі да месца і дапамаглі пацярпеламу, распавёў начальнік выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**.

Аматараў кайта, па словах выратавальнікаў, часта можна сустрэць на вадасховішчы. Нават прагноз надвор’я па іх даведаешся: калі прыехалі, значыць, будзе вецер.

Выратавальнікі нагадваюць, што аматарам кайтынгу пажадана мець выратавальную камізэльку і шлем. Абавязкова перад запускам кайта праверыць злучэнне стропаў і купала, калі на стропах ёсць вузлы, то развязаць іх. Праверце, ці не ўзмацніўся вецер і ці не перавышае ён дапушчальныя паказчыкі.

Па словах начальніка, спякота апошніх дзён паклікала да вады не толькі кайтыстаў. Учора на вадасховішчы некаторыя ўжо адкрылі купальны сезон.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Справу дзяўчынкі, якая загінула на ўборцы бульбы, накіруюць у ААН

МАЛАДЗЕЧНА

**Прававы інспектар прафсаюза РЭП Леанід Судаленка падрыхтаваў зварот у Камітэт па правах чалавека.**

Беларускаму ўраду, лічыць аўтар звароту, прыйдзецца тлумачыць у ААН, чаму Беларусь выкарыстоўвае дзіцячую працу і не прызнае віны ў гібелі дзіцяці.

Справа аб гібелі дзяўчынкі на калгасным полі скончылася тым, што дзяржава пакарала настаўнікаў і кіроўцу, які кіраваў грузавіком.

Але Леанід Судаленка, які прадстаўляе інтарэсы бацькоў Вікі Папчэні, на гэтым не спыніўся. Мэта гэтай судовай цяжбы, па словах прафсаюзнага юрыста, – не прызнанне віны выканаўцаў (настаўнікаў і кіроўцы), на месцы якіх можа апынуцца любы іншы чалавек, а доказ віны дзяржавы, якая выкарыстоўвала працу дзяцей; і ў канчатковым выніку – поўная забарона дзіцячай працы ў Беларусі і на ўзроўні заканадаўства, і на ўзроўні практыкі.

У Камітэце па правах чалавека ААН цяпер зарэгістраваныя 248 скаргаў на Рэспубліку Беларусь. Леанід Судаленка растлумачыў, што сярод гэтых зваротаў няма падобнага звароту “Сям’я Папчэняў супраць Беларусі”:

– Мне вядома пра сем скаргаў на парушэнне права на жыццё з усіх 248 скаргаў супраць Беларусі. На жаль, наша краіна – адзіная краіна ў Еўропе, дзе ўжываецца смяротнае пакаранне. Усе гэтыя скаргі мелі дачыненне да вынясення смяротных прысудаў. Акрамя гэтага, некалькі скаргаў маці асуджаных да смяротнага пакарання, на нявыдачу цела пасля расстрэлу. А скарга, якую мы падрыхтавалі ад імя Алега Папчэні, прэцэдэнтаў у Беларусі не мае: не было прысуду суда, па якім дзяржава выступае ў ролі ката і расстрэльвае свайго грамадзяніна. Тут умяшаўся выпадак, калі па віне службовых асоб дзяржаўных органаў загінула дзіця, якому не было яшчэ і 14 гадоў. Суд прызнаў віну настаўнікаў і кіроўцы. Начальнік аддзела адукацыі атрымаў дысцыплінарнае спагнанне ў выглядзе вымовы. Дзяржава ўжо не можа сказаць, што яна не мае дачынення да гібелі дзяўчынкі.

Па словах Судаленкі, справа Вікі Папчэні – якраз той самы выпадак, калі дзяржава праз выкарыстанне забароненай дзіцячай працы парушыла права на жыццё дзіцяці. Усе гэтыя аргументы прафсаюзны юрыст выказаў у скарзе:

– Справы па смяротным пакаранні паўтараюцца, яны ўсе, па сутнасці, падобныя: дзяржава расстраляла чалавека, цела сваякам не аддалі. Па справах падобнага роду ў Беларусі практыкі няма.

**Паводле PRACA-BY.INFO.**

## У Валожыне муж забіў жонку

ВАЛОЖЫН

Паведамленне з “хуткай” у Следчы камітэт пра тое, што па адным з адрасоў у Валожыне знойдзены труп 40-гадовай жанчыны, паступіла 25 красавіка.

Старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік** расказаў:

– На целе жанчыны знойдзеныя шматлікія пашкоджанні, аднак падрабязней пра іх можна будзе расказаць пасля заключэння судовых экспертаў.

Са слоў суседзяў, муж з жонкай злоўжывалі спіртным, часта сварыліся.

– Мужчына затрыманы. Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле “ Забойства”.

**Наталля ТУР.**


Справа налева: пераможцы Вераніка Юхнавец і Іваліна Хафар.


Выцінанка "Паляванне", якая прынесла перамогу маладзечанкам.


Педагог Вольга Маслава са сваёй працай.

# Чорныя каты прынеслі ўдачу маладзечанцам

МАЛАДЗЕЧНА

**У расійскім горадзе Сцерлітамак правялі Міжнародны конкурс дзіцячага гумарыстычнага малюнка "Катавасія".**

Конкурс ладзяць ужо трэці раз. Кожны год колькасць удзельнікаў усё большае. Сёлета журы ацэньвала каля пяці тысяч дзіцячых работ з Англіі, Беларусі, Расіі, Казахстана і Украіны.

Навучэнцы цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" адправілі па пошце 27 работ. Многія з іх прадстаўнікі журы адзначылі заахвочвальнымі дыпломамі, а дзве працы сталі прызёрамі.

У намінацыі "Каляровая графіка" дыпломам другой ступені ўзнагародзілі навучэнку аб'яднання па інтарэсах "Юны мастак" **Марту Мазалеўскую**. Такі ж дыплом атрымалі **Іваліна Хафар** і **Вераніка Юхнавец** з гуртка "Народныя крыніцы". Дзяўчынкі выканалі кампазіцыю ў тэхніцы "выцінанка".

– На нашай карціне мы адлюстравалі двух гуллівых катоў, якія палявалі за птушкамі, але, на шчасце, няўдала, – расказвае дзесяцігадовая Іваліна. – Я ўпершыню ўдзельнічаю ў падобным конкурсе і вельмі рада, што змагла парадаваць бацькоў і педагога.

А вось Вераніка Юхнавец за два гады атрымала ўжо шмат узнагарод. Нядаўна яна занялa другое месца ў пятым рэгіянальным конкурсе выцінанкі "Папяровыя карункі", а калектыўная работа з яе ўдзелам стала прызёрам абласнога этапу рэспубліканскай выставы-конкурсу "Калядная зорка".

Як прызнаецца дзяўчынка, выцінанку выразаць нескладана. Галоўнае – жаданне і цярпенне. Гэта ўжо не першая перамога навучэнцаў гуртка "Народныя крыніцы" ў гэтым конкурсе. Два гады таму яны адправілі ў Расію аплікацыю з саломкі і занялі трэцяе месца.

На сёлетнім конкурсе ў Расіі выграшылі прадэманстраваць іншы кірунак беларускай народнай творчасці. Кіраўнік гуртка **Вольга Маслава** падкрэслівае, што з кожным годам ахвотных авалодаць тэхнікай выцінанкі становіцца ўсё больш.

– Выразанне з паперы дапамагае праявіць фантазію. Цяпер выцінанка набірае ўсё большую папулярнасць сярод моладзі. Як дзеці, так і дарослыя з задавальненнем спасцігаюць гэта мастацтва, злучаючы традыцыі з сучаснымі тэндэнцыямі, – сцвярджае педагог.

Карына МІКЛУШЫС,
навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".
Фота з архіва "Маладзіка".



## Дзённік мамы першакласніцы: ля школы зашуміць алея нашых туй

МАЛАДЗЕЧНА

**Ля нашай школы гадкоў праз дзесяць зашуміць алея першакласнікаў.**

Менавіта вучні першых класаў, і Варвара ў іх ліку, пасадзяць у канцы навучальнага года дрэвы ля сваёй школы. Кожны клас – па туі.

Астатнія гады, пакуль вучацца, дзеці будуць даглядаць свае дрэўцы. І да выпускнога вырасцяць цэлую высокую алею. Туі абралі і з эстэтычных, і з практычных меркаванняў. Восенню за імі не трэба зграбаць лісце, таму менш працы дворнікам.

Ад першага мая першакласнікі будуць ужо самі спрабаваць пісаць у дзённікі расклад. Праўда, Варвара пачне недзе з сярэдзіны месяца. Ёй пашанцавала, бо мама мае звычку пісаць расклад адразу на некалькі тыдняў.

Дамашняе заданне ў дзённікі Вара і яе аднакласнікі пішуць ужо даўно. Не ведаю, як астатнія, а наша то тройку не ў той бок напіша, то літару "эс" закруціць не туды. У першым класе дзённік пакуль не правярае адміністрацыя. А ў другім ужо будзе. Таму і хвалюецца наша настаўніца, каб дзеці прывучаліся правільна пісаць у дзённіках.

Па словах настаўніцы, дзетак, якія б не ўмелі чытаць, у класе не засталося. Чытаюць усе. Праўда, розную колькасць слоў: хтосьці 18 за хвіліну, а хтосьці 60 паспявае.

Ужо ведаем, якія сшыткі купляць для другога класа. З малюнкамі на вокладцы не дазваляюць, а вось па колерах – можна любыя. Плюс – сшыткі на друкаванай аснове па некалькіх прадметах. Выдаткаў на школьную форму сёлета яшчэ пазбегнем, бо летам куплялі навырост. Ды і сарафанчыкі-спаднічкі ад старэйшай сястры засталіся.

Атрымалі заданне на лета: трэба пісаць пад дыктоўку, не забывацца чытаць кніжкі і весці чытацкі дзённік.

Нават летам нашым дзеткам ніяк без бацькоўскага кантролю. На сходзе мы напісалі, дзе і пад чым наглядам будзе знаходзіцца дзіця кожны месяц.

Наперадзе ў нас некалькі святаў – справаздачны канцэрт і выпусканая лінейка-ранішнік. А яшчэ – танцавальны батл з першым "А". Заўважце, не спаборніцтвы, а менавіта батл. Першакласнікі гавораць так.

Аксана ЯРАШОНАК.

## У Крывіцкім спецвучылішчы адкрылі майстэрню па рамонце аўтамабіляў

МЯДЗЕЛ

**У Крывіцкім спецыяльным лячэбна-выхаваўчым прафесійна-тэхнічным вучылішчы закрытага тыпу, што ў Мядзельскім раёне, 27 красавіка адбылося ўрачыстае адкрыццё праекта дапамогі ў мэтах развіцця пад назвай "Формула поспеху".**

Прафінансаваны ён у межах малых грантаў Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі.

Часткай праекта было стварэнне на тэрыторыі вучылішча ў Крывічах майстэрні па рамонце аўтамабіляў, якая стварае ўмовы для рэабілітацыі і сацыяльнай рэінтэграцыі моладзі і дае магчымасць атрымання прафесіі аўтамеханіка. Атрыманне практычных уменняў у вучылішчы палегчыць маладым людзям пошук і пачатак легальнай аплатнай працы, а тым самым – старт у жыццё пасля заканчэння гэтай навучальнай установы.

Касцёл у Беларусі на мерапрыемстве прадставіў арцыбіскуп **Тадэвуш Кандрусевіч**, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі. Таксама ў ім прынялі ўдзел намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь **Сяргей Руды** і Часовы Паверaны ў справах Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі **Міхал Хабрас**.

Пасля ўрачыстага адкрыцця прысутныя змаглі агледзець новы клас і стэнды. Дырэктар установы правёў экскурсію па вучылішчы, а навучэнцы далі невялікі канцэрт.

Праект рэалізавалі Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі, моладзевая рэлігійная місія "Чыстае сэрца" і Крывіцкае спецыяльнае лячэбна-выхаваўчае прафесійна-тэхнічнае вучылішча.

Паводле catholic.by.

# "І тут адчуваеш – во яно, шчасце!" Не прапусціце ноч танцаў "У маёвым садзе"

ВАЛОЖЫН

**Танцавальнае свята адбудзецца 12 мая на аграсядзібе "Засценак Скрыплеў" у Васіля Грыня.**

Удзельнікі этнаграфічнага клуба "KOLA" і праект "Свае танцы" аб'ядналіся, каб стварыць непараўнальнае танцавальнае свята на Валожыншчыне. Ноч танцаў "У маёвым садзе" ладзіцца другі год.

### Збіраем фотаздымкі з музыкамі

Адметнасцю сёлетняга маёвага сада стане фотавыстава, прысвечаная музыкам, якія некалі ігралі на вяселлях і вечарынках у раёнах. Арганізатары заклікаюць далучыцца да выставы ўсіх гасцей.

Зрабіць гэта вельмі проста. Пагартайце здымкі сямейных фотаальбомаў. Глядзіш, часам, і музыка праскочыць між іншым. Менавіта такія фота і запрашаюць да ўдзелу ў выставе.

У выставе "ўдзельнічаюць" здымкі з Валожынскага, Маладзечанскага, Мядзельскага, Вілейскага, Іўеўскага, Ашмянскага раёнаў. Пажадана даведацца год фота, імёны і гады жыцця музыкаў, крыху пра падзею.

Добра, калі зможаце апісаць кароткую гісторыю пра фота ці людзей на ім. Калі ласка, дасылайце карткі і інфармацыю на электронную скрыню .

### "Нібы вяртаешся ў дзяцінства"

Мы сабралі некалькі водгукаў ад удзельнікаў леташняй ночы танцаў. Вось што расказвае гаспадар "Засценка Скрыплеў" **Васіль Грынь**:

– Падтрымліваю свята, як магу, каб захаваць пераемнасць традыцый вячорак, каб жыла гэта культура. На вячорках збіраюцца ўсе пакаленні, як было даўней.

> **На лавачках сядзяць бабулі, побач бегаюць дзеці, пары танцуюць, а вакол атмасфера хутара. Я памятаю такія вечарыны ў вёсках, настальжырую па гэтым. І танцавальнае свята – нібы вяртанне ў дзяцінства.**

Для старэйшага пакалення важна, каб каштоўнасці маладосці цаніліся. Мова, танцы, спевы, музыка – беларуская культура, адрозная ад іншых, якая робіць нас унікальнымі і цікавымі.

Госць **Сяргей Латышаў**, інжынер-хімік-тэхнолаг з Мінска:

– На свята варта прыйсці ўсім, хто жадае адчуць, як іграе кроў і ногі ледзь трываюць а пятай гадзіне раніцы, але спыніцца немагчыма, таму што ты поўны адрэналіну і пачуццяў! Ды і шанец наведаць цудоўны "Засценак Скрыплеў" у маёвую ноч нельга ўпусціць!

### Вогнішча і блізкія зоркі з ракою

Вядучы спецыяліст па рабоце з моладзю цэнтралізаванай клубнай сістэмы Маладзечанскага раёна **Анастасія Шпілеўская**:

– Летась было шмат цёплых, душэўных момантаў, надоўга засталося адчуванне і настрой. Калі сярод танцаў адышла паспяваць у поле, а тады вяртаюся і чую здалёк... прыпеўкі, бубны звіняць, падлога трашчыць, парачкі мілуюцца каля вогнішча. І тут адчуваеш – во яно, шчасце!

Госця **Юля Бондар**:

– Вельмі натхняльна тое, што ноч танцаў праходзіць на хутары, на паўадкрытай пляцоўцы, з чыстым паветрам, вогнішчам ды блізкімі зоркамі з ракой. Жывая музыка, добрая кампанія, вялікая колькасць танцаў ды спеваў – выдатная магчымасць правесці майскую ноч у радасці ды з натхненнем на ўсё лета.

Чытачы "Рэгіянальнай газеты" могуць атрымаць у падарунак два білеты на ноч танцаў. Каб іх атрымаць, дашліце вершык пра ноч танцаў

**Мы разыгрываем два ўваходныя білеты на свята "У маёвым садзе". Каб іх атрымаць, трэба даслаць прыдуманы вершык пра ноч танцаў на пошту region-news@rh.by.**

Пераможцу абяром галасаваннем у суполках мерапрыемства ў сацсетках.

*Воля ТРУБАЧ, кіраўніца клуба "Кола".*




**Ноч танцаў "У маёвым садзе" пачнецца а 18 гадзіне 12 мая на аграсядзібе "Засценак Скрыплеў" Валожынскага раёна. Цана білета 10 рублёў, калі купляць адразу на месцы – 15 рублёў. Папярэдне трэба зарэгістравацца па нумары +375 29 535-31-05.**

**Калі ласка, падрыхтуйце адзенне, якое будзе адпавядаць атмасферы свята. Для жанчын гэта спадніцы ці сукенкі, для мужчын кашулі, штаны і боты. Пажадана выглядаць так, а найлепшы варыянт – апрануцца ў народныя строі, калі ў вас ёсць такая магчымасць.**

**За навінамі можна сачыць у суполках "У маёвым садзе" "Укантакце" і "Фэйсбуку", а таксама праз "Рэгіянальную газету".**

# Зрабі Вілейку чысцейшай – і атрымай шакаладку

## Віляйчан запрашаюць далучацца да акцыі "Зробім"





Так крэатыўна Вілейку прыбіралі летась. Фота vk.com.

ВІЛЕЙКА

**Жыхароў Вілейскага раёна запрашаюць паўдзельнічаць у валанцёрскай акцыі "Зробім" і атрымаць за гэта падарункі.**

Ад красавіка да верасня па ўсёй Беларусі праходзіць кампанія па прыборцы смецця "Зробім". Акцыю праводзяць па ўсёй рэспубліцы. Аднак для Вілейкі будзе адна прыемная асаблівасць.

**Віляйчанам не толькі прапануюць захаваць чысціню роднай зямлі, але і атрымаць на памяць адзін з падарункаў ад грамадскай арганізацыі "Экапартнёрства". Удзельнікам прапануюць майкі, кепкі, нататнікі і шакаладкі.**

Далучыцца да акцыі можа кожны чалавек або група неабыякавых людзей. Для ўдзелу неабходна зарэгістраваць месца, на якім вы будзеце прыбіраць смецце, на сайце кампаніі letsdoit.by і навесці там парадак.

Каб атрымаць падарунак, трэба даслаць фотаздымкі ў фармаце "да і пасля" вашай прыборкі на электронную пошту waste@ecopartnerstvo.by. Не забудзьцеся даслаць агульнае фота ўсіх удзельнікаў прыборкі, з дапамогай якога арганізатары будуць вызначаць колькасць падарункаў.

"Экапартнёрства" размесціць фатаграфіі прыборак на сайце кампаніі і ў сацыяльных сетках.

Калі ў вас узніклі пытанні, то можна задаваць іх на старонцы Інфармацыйнага цэнтра аб працы камунальных службаў Вілейкі "Укантакце".

Кампанія па прыборцы смецця "Зробім!" – беларуская частка сусветнай кампаніі, якая аб'ядноўвае 113 краін і 16 мільёнаў людзей, што імкнуцца зрабіць планету свабоднай ад смецця і падтрымліваць на ёй чысціню.

Рух стартаваў у 2008 годзе ў Эстоніі, калі 50 тысяч чалавек у адзін дзень выйшлі прыбраць смецце па ўсёй краіне. Яны працягваюць рабіць гэта да цяперашняга часу, натхняючы ўвесь свет. У Беларусі прыборкі ў рамках кампаніі пачаліся ў 2012 годзе.

Партнёрамі акцыі выступаюць Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

У Вілейскім раёне акцыю "Зробім!" праводзяць пры падтрымцы праекта "Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай", што фінансуецца Еўрапейскім саюзам.

Аксана ЯРАШОНАК.




## Беларусы штогод становяцца ўсё больш няшчаснымі

**Эксперты "Інстытута Зямлі" Калумбійскага ўніверсітэта (ЗША) штогод прадстаўляюць рэйтынг World Happiness Report, у якім даследуюць узровень шчасця ў 156 краінах свету.**

Рэйтынг рыхтуецца да Сусветнага дня шчасця, што адзначаецца 20 сакавіка.

Даследчыкі бяруць пад увагу такія паказчыкі, як працягласць жыцця, пачуццё бяспекі і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні, узровень карупцыі, узровень беспрацоўя і іншыя. Праводзяцца апытанні грамадскага меркавання.

Беларусь з кожным годам губляе пазіцыі ў рэйтынгу. У лідарах традыцыйна застаюцца Фінляндыя, Нарвегія, Данія, Ісландыя і Швейцарыя. Самыя ж няшчасныя, паводле рэйтынгу, жывуць у Цэнтральнаафрыканскай Рэспубліцы і Бурундзі.

Суседзі Беларусі сёлета занялі наступныя месцы: Польшча – 49, Расія – 51, Літва – 71, Латвія – 85, Украіна – 92.

Аляксандра ПАРАХНЯ.

## Капітальны рамонт чыгуначнай станцыі Вілейка могуць пачаць сёлета

ВІЛЕЙКА

На станцыі Вілейка капітальна адрамантавалі пост электрычнай цэнтралізацыі, абнавілі пасажырскую платформу.

Па словах начальніка станцыі **Вольгі Кавецкай**, пост электрычнай цэнтралізацыі стаў сучасным, палепшыліся ўмовы працы чыгуначнікаў. Памянялі вокны і дзверы, зрабілі ўнутраны рамонт, абнавілі кабінеты.

Цяпер работнікі чакаюць рамонту будынка станцыі. Плануюць замяніць сістэмы ацяплення, абсталяваць санвузлы, разглядаюць варыянты перапланіроўкі. Рамонт можа пачацца сёлета.

Паводле XPRESS.BY.

### Папраўка ў №16

На старонцы 17 дапушчаная недакладнасць. Правільна чытаць: "Загадчыца паліклінікі №3 у Маладзечне Наталля Капцюг". У перадапошнім сказе правільна чытаць: "Ідзе падрыхтоўка кабінета, у якім усталюем новае рэнтгенаўстаноўку". Просім прабачэння ў **чытачоў** і **Наталлі Капцюг**.

# Вайна – гэта не толькі ордэны

## У Вілейцы прайшла прэзентацыя краязнаўчай кнігі Алеся Раткевіча



Аляксандр Раткевіч расказвае пра гісторыю стварэння сваёй кнігі. Вілейка, 27 красавіка 2018 года.

Краязнаўца з Чысці Алесь Раткевіч некалькі гадоў збіраў звесткі аб нявінна загінулых мірных жыхарах у часы Другой сусветнай вайны ў наваколлі сваёй роднай вёскі Сакалоўка (Чарвякі) на Вілейшчыне. І не толькі дакументы, а і ўспаміны сведак.

Дзякуючы яго намаганням да вядомых сёння афіцыйных звестак дадаліся дзясяткі новых, раней малавядомых прозвішчаў. Савецкая гістарыяграфія абыходзіла ўвагай лёс тых людзей, якія загінулі не ад рук нацыстаў, а ад куль лясных бандытаў. Дзіўная рэч, немцы называлі ляснымі бандытамі савецкіх партызанаў, менавіта таму Раткевіч на сваім шляху сустракаў таксама не толькі неразуменне, але часам і нежаданне дапамагаць яму. Мясцовыя ж людзі бандытамі называлі тых, хто, выходзячы з лесу, паводзіў сябе па-бандыцку.

І калі ёсць праўда партызана Кісялёва, які выратаваў сотні мірных яўрэяў, то ёсць і праўда "лунінцаў", тых, хто, называючы сябе партызанамі, знішчаў і мірнае насельніцтва. Сумнавядомага Луніна асудзілі пасля вайны. Але шырока вядомымі факты яго злачынстваў сталі толькі пасля публікацый Алеся Раткевіча ў "Рэгіянальнай газеце". Пазней у краязнаўцы нарадзілася кніга, якую ён назваў "Невядомая гісторыя майго краю".

"Вайна – гэта не толькі ордэны", – сказаў Алесь Раткевіч, расказваючы аб сваёй кнізе вілейчанам.

Чым далей ад нас часы апошняй вайны, тым усё цяжэй ацаніць усю катастрафічнасць яе для беларускага народа. Новая кніга – унёсак у гістарычную праўду. Напісанае застаецца.

Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

### Урывак з кнігі Алеся Раткевіча:

#### Фашысцкая помста

*Не паспелі Жукоўскія толкам распавесці суседзям пра іх гора, як на вёску наляцелі Хаценчыцкія паліцэйскія і зондэркаманда з Ілы. Уся гэта фашысцкая хеўра адразу ж запоўніла ўсе падворкі, з якіх мінулым днём была адкрытая страляніна па паліцэйскіх і падчас якой адзін з іх быў забіты. Калі пачалася ў вёсцы страляніна і запалалі чатыры хаты з усімі пабудовамі, Аляксандра Мікалаеўна са сваім татам знаходзіліся ў свірне, за метраў 200 ад свайго падворка. Сталі і бездапаможна назіралі, як гінуць іх родныя і суседзі і як гарацьіх хаты.*

*Расправіўшыся з сем'ямі Булаха, Горбача і Яўгена Дзіка, фашысцкая помста за забітага паліцэйскага пачала пераходзіць ужо на ўсю вёску. Але тут умяшаўся якраз падаспеўшы псаломшчык Ляшкевіч. Ён запэўніў немцаў у тым, што ў забойстве паліцэйскага вінаваты не сяляне, а партызаны. І тым больш, што гэтыя людзі самі сталі ахвярамі партызан-лунінцаў і паказаў на Жукоўскіх, у якіх напярэдадні тыя расстралялі сваяка. Афіцэр зондэркаманды паверыў Ляшкевічу і адмяніў акцыю па знішчэнні ўсёй вёскі і яе жыхароў.*

*Пляшчане цэлы дзень не маглі адысці ад ранішніх жахаў. Бо кожны з іх прама ў вочы глядзеў сваёй смерці. І толькі бліжэй да вечара, крыху супакоіўшыся, на могілках у Загаранах родныя пахавалі Яўгена Дзіка (1904 г.н.) і яго шасцігадовага сына Ваню.*

*Жонка Яўгена Лізавета (1905), параненая ў сківаіцу, здолела выцягнуць з палаючай хаты сына і мужа. Але з сям'і выжыла толькі яна.*

*Сям'ю Горбача нацысты расстралялі ў двары. Спачатку гаспадароў, Габруся (1904) і яго жонку Гэльку (1907), а потым і дачку Аляксандру (1927).*

*Аляксандра з меншымі братам і сястрой, калі пачулі страляніну і дым над суседскай хатай, ссякалі падмарожаную капусту за хлявом на агародзе. Аляксандра загадала малодшым схавацца ў барозны, чым і выратавала ім жыцці, а сама пабегла да хаты, насустрач сваёй смерці.*

*Горбачаў вяскоўцы пахавалі на месцы расстрэлу, у іхнім жа двары пад яблынькай, дзе тыя спачываюць і па сённяшні дзень, без магілкі і помніка, бо перапахаваць не было каму.*

# Правілы бяспекі на чыгунцы

**Паважаныя чытачы!**

**Чыгунка – гэта зона павышанай небяспекі, дзе галоўным траўмуючым фактарам быў і застаецца наезд рухомага саставу, высокае напружанне ў кантактным провадзе. Таму знаходжанне людзей у зоне чыгункі можа быць смяротна небяспечным.**

Але ёсць і такія, хто, гледзячы на плакаты, якія прапагандуюць Правілы бяспекі грамадзян пры знаходжанні ў зоне павышанай небяспекі, усё роўна працягваюць іх парушаць. Больш за ўсё здзіўляе тое, што так робяць дарослыя, якія падаюць прыклад сваім дзецям і ўнукам, забываючы, што, у канчатковым выніку, яны рызыкуюць жыццём.

Дзіцячы траўматызм выклікае асаблівую трывогу ва ўмовах развіцця высакахуткаснага руху. Бо дзеці не заўсёды могуць ацаніць рэальную небяспеку. Грэбуючы існуючай забаронай, некаторыя з іх самастойна знаходзяцца на чыгуначных пуцях, чапляюцца за аўтасчэпкі і падножкі вагонаў. Свавольства не застаецца непакараным, дзеці атрымліваюць траўмы рознай цяжкасці і, як правіла, застаюцца інвалідамі.

У чэрвені 2017 года ў Маладзечанскай дыстанцыі пуці былі зафіксаваныя два выпадкі траўмавання грамадзян, не звязаныя з вытворчасцю:

на перагоне Смаргонь – Залессе машыніст цягніка ўбачыў на ўзбочыне землянога палатна труп жанчыны;

на станцыі Беларусь траўмаваны мужчына, які пераходзіў чыгуначныя пуці па пешаходным пераходзе пераезда.

У студзені 2018 года ў Маладзечанскай дыстанцыі пуці на перагоне Валожын – Палачаны быў траўмаваны мужчына, які перабягаў праз чыгуначны пераезд.

Усе выпадкі траўмавання грамадзян адбыліся па прычыне невыканання правілаў знаходжання на чыгунцы і асабістай безадказнасці і неасцярожнасці ў зоне павышанай небяспекі паблізу чыгункі на перагонах і станцыях.

Аналіз няшчасных выпадкаў з грамадзянамі, не звязанымі з вытворчасцю, паказаў, што колькасць няшчасных выпадкаў з грамадзянамі застаецца высокай, гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам і якія жывуць каля чыгункі.

**Правілы бяспечных паводзін на чыгуначным транспарце:**

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, па насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваныя ўказальнікі "Пераход праз пуці".

2. Перад пераходам праз пуці па пешаходным насціле пераканайцеся ў адсутнасці рухомага цягніка, лакаматыва, вагонаў.

3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва ці вагонаў спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, ідзіце далей.

4. Падыходзячы да чыгуначнага пераезда, уважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаўма. Пераходзіць пуці можна толькі пры адкрытым шлагбаўме, а пры яго адсутнасці, перш чым перайсці пуці, неабходна пераканацца, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў або вагон.

5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.

2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці, калі блізка ідзе цягнік і адлегласць да яго менш за 400 метраў.

3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго кірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка па сустрэчнаму кірунку.

4. Выходзіць з вагона на міжпуцці і стаяць там пры праходзе сустрэчнага цягніка.

5. На станцыях і перагонах падлазіць пад вагоны і пералазіць праз аўтасчэпкі для праходу праз пуці.

6. На электрыфікаваных участках набліжацца да неабгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ПЛ), падымацца на электраапоры.

7. Набліжацца да электраправаду, які ляжыць на зямлі, бліжэй за 8 метраў.

8. Праходзіць уздоўж чыгуначнага пуці бліжэй за 5 метраў ад крайняй рэйкі.

9. Падлазіць пад закрыты шлагбаўм на чыгуначным пераездзе, а таксама выходзіць на пераезд, калі шлагбаўм пачынае закрывацца.

10. Ехаць на дахах, падножках, пераходных пляцоўках вагонаў.

11. Высоўвацца з вокнаў вагонаў і дзвярэй тамбураў на хаду цягніка.

12. Заходзіць за лінію бяспекі ля краю пасажырскай платформы.

13. Скакаць з платформы на чыгуначныя пуці.

14. Наладжваць на платформе розныя рухомыя гульні.

15. Праходзіць па чыгуначных мастах і тунэлях, якія не прызначаны для пераходу пешаходаў.

16. Бегчы па платформе побач з вагонам цягніка, які прыбывае ці адыходзіць, а таксама знаходзіцца бліжэй за два метры ад краю платформы падчас праходжання цягніка без прыпынку;

17. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.

18. Правозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.

19. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва не ўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовых і далёкіх шляхоў зносін.

**Паважаныя чытачы газеты! Мы хочам вам усім пажадаць здароўя, і каб вы заўсёды выконвалі правілы паводзін на чыгунцы, не падвяргалі сваё жыццё і тых, хто побач, небяспецы, не праходзілі міма дзяцей, якія парушаюць правілы паводзін на аб'ектах чыгуначнага транспарту.**

Маладзечанская дыстанцыя пуці.
УНП 600 199 567.

ТЭМА НУМАРА

# "Мару толькі пра адно – каб дзеці і ўнукі не ведалі вайны"

## Пра ваеннае дзяцінства на Вілейшчыне расказвае Алімпіяда Лешч

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**Алімпіяда Пятроўна Лешч, у дзявоцтве Кажура, жыве ў вёсцы Брускаўшчына Маладзечанскага раёна. Прыгадваючы ваенны час, кажа: "Тут жа, куды да мужа прыйшла, вайны не ведалі. Вайна была, дзе мы жылі, на фронце". Пра сваё дзяцінства ў вёсцы Шыпкі цяперашняга Вілейскага раёна яна расказала для чытачоў "РГ".**




Алімпіяда Пятроўна Лешч дома ў Брускаўшчыне.

У 1933 годзе ў сям'і нарадзіліся першынцы, адразу двойня – хлопчык і дзяўчынка. Думалі назваць Адамам і Евай. Маме не спадабалася Ева, таму назвалі Алімай. Праз два тыдні хлопчык памёр. Жанчыне так і варажылі ў маладосці: дзяцей будзе многа, але ў жывых застануцца толькі двое.

### Што памятае пра ваеннае дзяцінства

Дом Кажураў быў на беразе ракі, самы першы. Калі пачалася вайна, Алімпіядзе было восем год.

– Вайну помню добра, як плакала, есці прасіла ў мамы. Кажа, ну, няма што даць. Заўтра ў ягады сходзім, пазбіраем. Тут, у Брускаўшчыне, не знаюць вайны. Тут і кароў хавалі, на аэрадроме немцы былі, дык партызаны баяліся ісці. І ў далейшых вёсках ад Шыпкоў, дзе маміны сёстры жылі, было што есці. Дык я зімой хадзіла да іх за пяць кіламетраў. А ў нас быў сапраўдны фронт. Шыпкі былі на сто дамоў – ніводнай каровы не засталося.

Немцы прыходзілі з Раёўкі, што за тры кіламетры, але не лазілі, не шукалі. Прасілі: "Матка, яйка, млека?". Дык і давалі.

Тату некалькі разоў выклікалі ў ваенкамат, але на вайну не бралі. Можа, трохі глухаваты быў.

Неяк трэба было мне моркву пачысціць. Гэта цяпер нажоў з дзесяць дома валяецца. А тады я на камень села, чышчу шкельцам. Ідуць з Раёўкі тры немцы. Сталі каля мяне, я далей чышчу. Адзін падышоў, забірае шкло, а я ў плач, думаю, страляць ці біць будзе. А ён далонню па галаве гладзіць і кажа: "Гуд, гуд". Кінуў шкло, дастаў з кішэні складаны нож на некалькі лязоў і даў мне. І пайшлі.

З год ці болей быў у мяне гэты нож. Не схавала нідзе, на стале ляжаў. Прыйшлі партызаны і забралі. Прасіла, каб не бралі, але хіба яны пытацца будуць. Як жа рэзаў добра!

Дом каля броду быў, усе прасціны, што сохлі, бралі і рвалі на партызанкі. А яшчэ прыходзілі і тату забіралі. Садзяць на першы воз, да колаў прывязваюць саконі. Калі раптам міна, каб бацька ўзрываўся, а яны ззаду едуць. Ездзілі так у іншыя вёскі, бо ў нашай ужо не было чаго браць. Некаторыя мужчыны хаваліся, але як першы дом, то і не паспееш. І бралі, што хацелі – бочкі, капусту.

Неяк гулялі каля ракі, прыйшлі немцы да рэчкі. Раздзеліся, гадзіннікі паклалі на каменнях, пайшлі купацца. Нехта з дзяцей сцягнуў гадзіннік. А нас многа, хто яго ведае, хто. Вяртаюцца немцы, апранаюцца. Паказваюць, што гадзінніка няма. Ён аўтамат падняў уверх і стрэліў. Пачулі бабы ў хатах, зляцеліся нашы маткі. Паказваюць ім, што гадзінніка няма. Яны на калені, кленчылі, прасілі. Дык праўда, нічога. Завярнуліся і пайшлі. Ой, страшна было.

У мамы было пяць сясцёр і чатыры браты. Хадзіла да цётак, бо там у партызан ежа была. Неяк снегам прыйшла, палезла на печ грэцца. Часам так і задрамлю. Тут прыходзіць другая цётка, размаўляюць, думаюць, я сплю. Адна кажа – ты хаця ж не скажы, што іх карова ў нас. Бо Пятрусь прыйдзе спаганяць, яшчэ ў косці ўложаць, і прыбіць могуць. А я чую, мне восем год, усё разумею. Тату не сказала – чорт не бяры з каровай. Хаця Красуля надта добрая была, першая ў статку.

Ішла блакада на партызан, не раёўскія і не ільянскія немцы, спецыяльная брыгада ішла, многа людзей загінула. І тады немцы гоняць статак кароў, можа са сто – наша Красуня першая. Бягу маме расказаць, адказвае, ну што ж, у немцаў жа не адбярэш карову. І аднаму паліцаю спадабалася, накінуў на рогі повад. А ў 44 годзе тата прылятае, кажа, што немцы з Раёўкі ўцякаюць, дзе павадок, паляту па карову. І прывёў Красуню. І ў нас у першых карова з'явілася, мы багатыя сталі.

Чулі пра спаленыя вёскі. І ў нашай некалькі хат падпалілі не раёўскія немцы, блакадныя. Але без людзей. У Раёўцы сабралі тых, хто каля лесу жыў, – і людзей, і дзяцей. Сагналі ў лес і расстралялі за тое, што з партызанамі былі звязаныя. А раёўскі немец ездзіў да ільянскіх, вяртаецца на матацыкле, даведаўся, што адбылося. Пайшоў глядзець. Чуе, дзіця плача. Маці дзіця трымала і сабой прыкрыла. Дастаў дзіця, завёз у Раёўку і аддаў людзям.

У вайне бедныя ўсе простыя людзі. Гэта Гітлера трэба было вешаць. Адзін немец, што ўмеў па-польску трохі гаварыць, кажа: "Хазяін, мы ваяваць таксама не хочам. Але калі не пойдзем, нас дома заб'юць".

### Як уладкоўвалі жыццё пасля вайны

Пасля вайны Алімпіяда хацела пайсці вучыцца ў Гродна ў вучылішча па падрыхтоўцы старшыняў калгаса. Паступала разам з дзвюма сяброўкамі-аднавяскоўкамі. У 1952 годзе здавалі экзамены ў Ашмянах. Экзамены здалі ўсе, сяброўкі паехалі вучыцца, а Аліму тата не пусціў. Кажа: "У чым жа ты паедзеш?".

– Не пусціў, ну дык што ж. І праўда, не было што адзяваць, пасля вайны былі голыя і босыя. У сельсавет трэба быў учотчык, парабляла год. Купіла паліто зімовае, асеннае, туфлі, боты, тры сукенкі загатовіла, вязаны шалік на галаву. Праз год паехала паступаць, узялі па леташніх дакументах. У адной групе вучылася з Феліксам Ляшчом, якога па накіраванні прыслалі з Брускаўшчыны. Памагала яму дробы, а пасля ён мяне абагнаў па матэматыцы.

Аднагрупнікі пасябравалі, хадзілі ў кіно. Другі аднагрупнік, Грышка, пачаў таксама клікаць. Давялося адмаўляць: "Ужо хадзіла з Ляшчом глядзець. А якая я буду дзеўка, калі з усімі хлапцамі буду ў кіно хадзіць".

Фелікс прапанаваў не чакаць, пакуль выправяцца ў сваты, адразу і распісацца. На выпускным дырэктар павіншаваў, а адразу пасля кожны паехаў да сябе дадому. Спачатку Фелікс паехаў знаёміцца з сям'ёй маладой жонкі, а затым і Аліма выправілася ў новую сям'ю. У доме жылі са свякроўю і свёкрам, а таксама з маладой сям'ёй сястры мужа.

Фелікса паставілі аграномам, Аліме прапанавалі пасаду агранома ў Мясаце. Жанчына папрасілася ў калгас да мужа – паставілі загадчыцай фермы на 600 галоў.

– Шкадавала даярак, калі якая зап'е, сама працавала. Цяперака на ферме рай. А я была і загадчыца, і доктар, і асемянатар, і свойскіх прыводзілі, каб асемяняла, і з Хажова, і з Мойсіч. І свая ж гаспадарка. Добра, што свякруха дзяцей у школу выпраўляла, бо не справілася б. Плацілі нармальна, я палучала 60 рублёў. Няблага было, калгас быў багаты – мільянер.

Алімпіяда Пятроўна з мужам выгадавалі траіх дзяцей. Мужа не стала 20 год таму. Блізняты Пётр і Васіль, якіх назвалі ў гонар дзядоў, сталі ваеннымі. Пётр некалькі год таму загінуў па нешчаслівым выпадку непадалёк ад роднага дома. Дачка Таццяна жыве ў Маладзечне. Сваімі клопатамі і дасягненнямі цяпер Алімпіяду радуюць унукі і праўнукі.

Жанчына марыць толькі пра адно – каб дзеці і ўнукі не ведалі вайны.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

КАЛЯНДАР

6 МАЯ

**85 гадоў** з дня нараджэння **Юрася Свіркі** (Юрыя Мікалаевіча) (1933 – 2010), беларускага паэта і перакладчыка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Куляшова (1993).

7 МАЯ

**255 гадоў** з дня нараджэння **Антона Панятоўскага** (1763 – 1813), ваеннага і дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, генерал-лейтэнанта польскай арміі, маршала Францыі, удзельніка паўстання 1794 года.

8 МАЯ

**135 гадоў** з дня нараджэння **Сцяпана Некрашэвіча** (1883 – 1937), беларускага мовазнаўца, акадэміка Акадэміі навук Беларусі.

9 МАЯ

**Дзень Перамогі.**

**65 гадоў** з часу выхаду (1953) першага нумара часопіса "Маладосць".

**1866.** Нарадзіўся **Леў Бакст** (памёр 27.12.1924), тэатральны мастак, жывапісец і графік. Сапраўднае імя – Розенберг Лейб-Хаім Ізраілевіч.

10 МАЯ

**1883.** 135 гадоў з дня нараджэння **Янкі Маўра** (сапр. Фёдараў Іван Міхайлавіч), беларускага пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры, заснавальніка прыгодніцкага і навукова-пазнавальнага жанраў у беларускай літаратуры, стваральніка першай беларускай навукова-фантастычнай аповесці. Аўтар кніг для дзяцей, п'ес, перакладаў. Член Саюза пісьменнікаў СССР (1934). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларускай ССР (1968). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968). Янка Маўр быў вядомым эсперантыстам. Мову эсперанта пачаў вывучаць яшчэ ў 1904 годзе. У 1926 годзе вёў перадачу для эсперантыстаў на беларускім радыё. Сваіму зяцю Міхасю Міцкевічу (малодшы сын Якуба Коласа) ён чытаў "Яўгена Анегіна" на эсперанта. Ведучы перапіску з эсперантыстамі свету і атрымліваючы ад іх наўпрост рэдкую інфармацыю, напісаў кнігу "Амок". Ён сабраў вялікую хатнюю бібліятэку, якая была адной з лепшых у даваенныя гады ў Беларусі. Пісьменнік захапляўся спірытызмам. У яго дома збіраліся кампаніі, якія практыкавалі выклік духаў. У Маўра быў філасофскі склад розуму, і ў спірытызме ён бачыў не містыку, а недаследаваную прыродную з'яву, і спрабаваў зразумець яе механізм. Памёр 3 жніўня 1971 года. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# 50 адценняў акцёра Чэчанева

**МАЛАДЗЕЧНА**

**"Першага мая спаўняецца 50 гадоў з дня нараджэння… Ой, а яму ўжо 50?", – успомнілася фраза дзядзькі Міці з фільма "Каханне і галубы". Сапраўды, у тое, што гэтаму гарэзліваму маладому чалавеку з чарцянятамі ў вачах ужо 50, верыцца з цяжкасцю. І калі яму расказваеш пра гэта, ён залівaецца гучным смехам. І людзі, якія знаходзяцца побач, уздрыгваюць.**

Пры гэтым, сказаць дакладна, ці шчыры гэты смех, ці чарговая роля, цяжка, калі насупраць цябе сядзіць ён: чалавек з 1000 твараў, акцёр і рэжысёр, зорка маладзечанскага тэатра – **Алег Чэчанеў**.

Напярэдадні юбілею мы сустрэліся, каб успомніць сыграныя ролі, і ролі, якія засталіся толькі ў марах.

– Першая роля была роляй лесуна. Але яна запомнілася не асабліва. А вось касцюм так. Гэта быў нейкі дзікі шлем з паралонам, гарачы. Памятаю, што пасля спектакля мяне можна было хоць выкручваць.

## Айбаліт, Баніфацый і Баба Карга, якая разагнала гледачоў

Алег Чэчанеў расказвае, што ад працы і з дарослымі, і з дзецьмі атрымоўвае аднолькавае задавальненне. Дзеці, вядома, публіка больш шчырая.

– Калісьці я ставіў дзіцячы спектакль "Падарожжа за рыбкай залатой". Тады дакладна ведаў, чым зачапіць маленькага гледача. Па сюжэце Баніфацыю трэба было пераадолець пэўны шлях, па дарозе робячы фокусы. На маю просьбу дапамагчы з фокусамі, адгукнуліся нават невядомыя людзі ў інтэрнэце. Яны прысылалі і схемы фокусаў, і алгарытм іх выканання. Цудоўная атрымалася рэч.

> А цяпер сядзяць дзеці ў тэатры, у цемры свецяцца агеньчыкі іх мабільных тэлефонаў, вочы пустыя-пустыя. Я не разумею, што ім цяпер трэба.

Быў у Алега Чэчанева выпадак, калі ён настолькі моцна ўжыўся ў ролю, што ледзьве не пакінуў спектакль без гледача.

– Igралі з Сашам Пашкевічам дзвюх сясцёр: Бабу Ягу і Бабу Каргу. Спектакль ішоў акурат пасля Новага года. Я выходжу ў залу і звяртаюся да гледачоў: "А што вы сюды прыпёрліся? Ідзіце дадому, даядайце салацікі мінулагадовыя". Гляджу, а нейкі бацька ўзяў дачку за руку і праходзіць да выхаду. Відаць, зладзеяў я іграю больш пераканаўча (залівaецца смехам).

## Зладзеі, героі-палюбоўнікі і роля, якую яшчэ не сыграў

Зладзеяў і розных там мярзотнікаў іграць больш азартна, па меркаванні артыста.

– Канешне, любому артысту цікава сыграць якога-небудзь Дракулу. У маёй творчасці хоць і была роля Чорта, але найбольшую сволач я сыграў у спектаклі "Псіхааналітык для псіхааналітыка».

Ролі і герояў, і палюбоўнікаў у творчай біяграфіі Алега Чэчанева, канешне, здараліся. Больш цікава было распытацца пра вобраз сэрцаеда з жыцця?

– Не, – задумаўся Алег, – ды не! Не разбіваў я сэрцы. А хто б іх потым склейваў? У мяне ніколі ў жыцці не было такога пачуцця, каб не мог ні есці, ні піць, ні спаць. Нават у падлеткавым узросце. Уздыхаў я па адной сваёй аднакласніцы, канешне ж, без узаемнасці. Месяц мучыўся. А потым выразіў ёй прызнацца. Сказаў: "Я цябе кахаю!". Яна адказала: "А я цябе не!". І здавалася б, і сэрца разбіла мне, а мне так лёгка ад гэтага стала.

І пасля, па прызнанні артыста, нават калі для ролі патрабавалася кахаць партнёрку, ён размяжоўваў сцэну ў жыццё.

– Ды ніколі я не кахаў сваіх партнёрак у сэнсе "кахаць"! У нашым тэатры ішоў спектакль "Саламея і яе палюбоўнікі". Саламею іграла **Іра Кляпацкая**, я – яе маладушага палюбоўніка. Там сцэны былі, скажу я вам, яшчэ тыя. А я ніяк не мог трапіць у словы песні. А мая жонка тады працавала асістэнтам рэжысёра, яна глядзела, як я абдымаю і цалую Іру, і ў пэўны момант давала адмашку: "Давай!". І я пачынаў спяваць.

> Калі ў жонкі Чэчанева пыталіся, ці раўнуе яна яго да партнёрак, Ларыса, так завуць жонку, казала, што акцёр – гэта прафесія, якую выбраў муж. І раўнаваць да яе не мае сэнсу.

– Толькі адзін раз мяне папракнула тым, што я любуюся сабой. Недзе ў пачатку 90-х у Беларусі выходзіў часопіс "Тэатральная Беларусь". Мяне надрукавалі на вокладцы ў ролі нейкага грэчаскага бога. Я купіў гэты часопіс і хадзіў з ім, прыціскаючы да сябе. Толькі тады Ларыса сказала, што я нікога, акрамя сябе, не бачу.

Гэтымі днямі Алег Чэчанеў быў на прэм'еры спектакля "Рамэа і Джульета" ў Мінску. І прызнаўся, што ёсць у гэтым спектаклі роля, якую ён вельмі хацеў бы сыграць.

І гэта не Рамэа, не.

– Мне яшчэ з дзяцінства падабаецца персанаж манах Ларэнца ў гэтым творы. Ён чаму ў манахі пайшоў? Бо ў самога было няшчаснае, нераздзеленае каханне. Таму ён і бярэ пад сваю апеку герояў. А маналог Рамэа я вучыў яшчэ ў дзяцінстве, у сваёй першай тэатральнай студыі. Ну, як я яго вучыў? Мама паставіла на стол талерку баршчу, я сёрбаў і чытаў. Пасля, калі ў такой жа манеры прачытаў яго ў студыі, мне сказалі: "Гад, ты ўсё сапсаваў".

## Пра авантюры і старасць

– Аванцюрай можна назваць усё маё тэатральнае жыццё. Усё гэта – вялікая аванцюра. Я гэта слова ўзгадаў, стоячы на вакзале ў Вроцлаве пасля паказу спектакля "Сіні аўтамабіль". Я думаў тады: як гэта ўсё атрымалася?

Думкі пра тое, каб аднавіць монаспектакль "Сіні аўтамабіль" перыядычна ўзнікаюць у Алега Чэчанева.

– Але на 50-гадовы юбілей у тэатры будзе ісці "№13" . Не збяром публіку, мне сказалі ў тэатры. Ды я і не рвуся. З узростам стаў заўважаць за сабой, што баюся спускацца з лесвіцы. Угару іду шпарка, а ўніз ступаю акуратна. Так і са сваім узростам. Баюся скаціцца. Таму раблю ўсё акуратна.



Алег Чэчанеў з задавальненнем пагадзіўся сыграць тварам эмоцыі самых вядомых тыпажоў. Але на секунду перад гэтым задумаўся, паглядзеў у акно і сказаў: "Давайце. Я гатовы".

**Фота аўтара.**

**Віншуем Алега Чэчанева з 50-годдзем. Жадаем новых роляў, бенефісаў і прэм'ер.**



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)



З такімі сумнымі вачыма Чэчанеў іграў бы Рамэа.



Гэта, канешне ж, Воланд.



Хітры позірк – прыкмета Астапа Бэндара.

Зладзеяў іграць азартна, прызнаецца акцёр. На фота – вобраз графа Дракулы.



А гэта герой – палюбоўнік Казанова.



Ну, а гэта любімы персанаж усіх дзетак на навагодніх ранішніках – зайчык.



А на гэтым фота Алег – у адной са сваіх роляў. Здагадайцеся, у якой? Пішыце.



Трэнеры ФК "Чысць" Дзяніс Мятліцкі, злева, і Руслан Лукін. Пасля паражэння каманды.



Гулец ФК "Чысць" Яўген Будай.



Галоўны трэнер ФК "Слонім" Алег Кароль прымае віншаванні ад саперніка.



Момант гульні.

# ФК "Чысць" зноў прайграе і аказваецца на апошнім радку турнірнай табліцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Яшчэ адна дамашняя гульня, якая адбылася на гарадскім стадыёне 28 красавіка, не прынесла камандзе з Чысці ні радасці, ні ачкоў.**

На гэты раз сапернік са Слоніма аказаўся вышэйшым на галаву ва ўсіх сэнсах гэтага слова.

Лік гульні госці адкрылі на 15 хвіліне. І ўжо на 16 ён быў 0:2.

Трэба сказаць, што абаронцы каманды "Чысць" у гэтым матчы не праявілі сябе ніяк. І ўсе 85 гледачоў на трыбунах, калі ў пачатку матча яшчэ неяк падбадзёрвалі гульцоў, то бліжэй да канца першага тайма сталі крычаць: "Слонім, наперад".

"Слонім" не прымусіў сябе доўга чакаць і на 43 хвіліне закаціў яшчэ адзін мяч у вароты гаспадароў поля.

Другі тайм, каб яшчэ крыху, мог бы пайсці зусім па-іншаму. На 72 хвіліне матча **Аляксандр Працкевіч** адквітаў адзін гол. І да другога гола заставалася зусім нічога, удача была на баку "Чысці", але мяч так і не трапіў у вароты.

Галоўны трэнер "Чысці" **Руслан Лукін** на пасляматчавай прэс-канферэнцыі зверне ўвагу менавіта на гэта.

А пакуль на 79 хвіліне матча гулец "Слоніма" павялічвае разрыў у ліку да чатырох галоў. І пакуль мяняўся лік на табло, у вароты чысцінцаў заляцеў чарговы мяч.

Фінальны лік 1:5.

На пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер ФК "Слонім" пракаментаваў гульню наступным чынам:

– Гульня была складаная. Мы разлічвалі на тое, што сапернік на сваім полі будзе гуляць больш востра. Спрабавалі гуляць на контратаках. Але патрабавалі ад гульцоў і пазіцыйных атак. Хацелі гуляць шырока праз флангі з падачамі. Плюс стандарты. Першы з іх прайшоў, і атрымаўся першы гол.

Руслан Лукін падхоплівае размову і кажа:

– Так, першы гол атрымаўся са стандарту. Другі мы падарылі самі, памыліўся Мікіта Мятліцкі. Ды і трэці, уласна, таксама. Быў у гульні пераломны момант, але пры ліку 1:3 варатар забіў гол сам сабе. Не атрымалася ў нас, не выканалі ўстаноўку. Канешне, гэта ўсё балюча. 0:6, 1:5… Але мы сябе яшчэ пакажам. Мы голыя, халодныя, без грошай, але гордыя.

**Наталля ТУР.**
**Фота Наталлі ТУР.**

ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА
ПЕРВОЙ ЛИГИ

| № | КОМАНДА | И | В | Н | П | ЗМ | ПМ | +/- | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | БЕЛШИНА | 4 | 3 | 1 | 0 | 5 | 2 | 3 | 10 |
| 2 | ОРША | 4 | 3 | 0 | 1 | 7 | 3 | 4 | 9 |
| 3 | ЭНЕРГЕТИК-БГУ | 4 | 2 | 2 | 0 | 4 | 2 | 2 | 8 |
| 4 | ЛОКОМОТИВ ГОМЕЛЬ | 4 | 2 | 1 | 1 | 8 | 2 | 6 | 7 |
| 5 | СЛОНИМ-2017 | 4 | 2 | 1 | 1 | 8 | 3 | 5 | 7 |
| 6 | СМОРГОНЬ | 4 | 2 | 1 | 1 | 4 | 3 | 1 | 7 |
| 7 | ЛИДА | 4 | 2 | 0 | 2 | 8 | 6 | 2 | 6 |
| 8 | СЛАВИЯ | 3 | 1 | 2 | 0 | 3 | 1 | 2 | 5 |
| 9 | ГРАНИТ | 4 | 1 | 2 | 1 | 3 | 3 | 0 | 5 |
| 10 | ЮАС | 3 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 0 | 4 |
| 11 | ВОЛНА | 4 | 1 | 0 | 3 | 5 | 10 | -5 | 3 |
| 12 | НАФТАН | 3 | 0 | 2 | 1 | 2 | 3 | -1 | 2 |
| 13 | БАРАНОВИЧИ | 4 | 0 | 1 | 3 | 2 | 6 | -4 | 1 |
| 14 | ХИМИК | 3 | 0 | 1 | 2 | 1 | 5 | -4 | 1 |
| 15 | ЧИСТЬ | 4 | 0 | 1 | 3 | 2 | 13 | -11 | 1 |

Скрын vk.com\league1blr



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Прама, не зварочваючы ўбок.
4. Вялікая раўніна з расліннасцю стэпавага тыпу ў Паўночнай Амерыцы.
6. Нечаканы выпадак.
7. Пэўны парадак, паслядоўнасць.
9. Парны бальны танец свабоднай кампазіцыі з энергічным, выразным рытмам, а таксама музыка да гэтага танца.
12. Дванаццаць аднолькавых прадметаў.
13. Дарога, якая злучае важныя аб’екты, населеныя пункты.
14. Прадмет кухоннага ўжытку – металічная пласцінка з дзіркамі, якая служыць для раздраблення, расцірання.
15. Прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі.
16. Міфалагічная казачная птушка, якая валодала здольнасцю пры набліжэнні смерці згараць, а потым зноў узнікаць з попелу.
18. Крывічы, …, радзімічы.
20. Аўрум.
21. Яе вымяраюць спідометрам.
25. Надзвычайныя прыродныя здольнасці.
26. Старажытныя пісьмёны, якімі карысталіся пераважна скандынавы і якія захаваліся ў надпісах на камянях і іншых прадметах.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Манюка.
3. Прадукт працы, выраблены на продаж.
5. Пазваночнік чалавека, жывёлы або рыбы.
7. Чарадзейства, чараўніцтва.
8. Сапраўдны, нявыдуманы выпадак, з’ява, здарэнне.
10. Струмень вады або вадкасці, які з сілай выкідваецца ўгору пад высокім ціскам.
11. Тонкая гнуткая галінка, дубец.
12. Драматычны твор, у аснове якога ляжыць непрымірымы жыццёвы канфлікт, сутыкненне характараў, што часцей за ўсё канчаецца смерцю героя.
17. Падлетак на судне, які вывучае марскую справу, а таксама, у некаторых замежных флотах, малодшы матрос.
19. Вышыня чалавека або жывёлы.
22. Вяроўка або ланцуг, якім пераязваюць пярэднія ногі каню ў час пасьбы.
23. Назва дзвюх літар у старaславянскім алфавіце, якія абазначалі насавыя галосныя.
24. Устаноўлены або ўсталяваны парадак, спосаб жыцця, побыту.
26. Прылада працы першабытнага чалавека з каменя міндалепадобнай формы, патоўшчанага і закругленага ў аснове, завостранага на канцы.
27. Аб’ект крадзяжу, у якім абвінавачваюць Праметэя.
28. Перарывістая лінія з кропак або кароткіх рысак.
29. Караткевіч “… – смерць. Ідзі вышэй сіл сваіх, і станеш жыць доўга”.
30. Вадзяная пазваночная з непастаяннай тэмпературай цела жывёліна, звычайна пакрытая луской.

## Адказы на крыжаванку з №17

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Малекула. 3. Пясок. 6. Багата. 8. Інфаркт. 9. Умова. 12. Шафа. 14. Шалік. 16. Энтузіязм. 17. Неба. 18. Ісцец. 20. Разрадка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Радасць. 4. Кішэняў. 5. Аліса. 6. Бабёр. 7. Ракурс. 10. Эстафета. 11. Разлад. 13. Сякера. 14. Шкілет. 15. Танец. 16. Элексір. 18. Ініцыялы. 19. Зуб. 21. Шпрыц.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Рэпертуар на май



## ГАРАСКОП 4-10 МАЯ



**АВЕН.** Лёс як леў. Калі ты баішся, лёс будзе на цябе нападаць, а калі гэтага страху няма, то ён паверне туды, куды ты хочаш.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам здаецца, што вы заўсёды вядзеце сябе справядліва ў дачыненні да іншых людзей, што вашы дзеянні маюць выразную і абгрунтаваную матывацыю, але гэта не так. Нярэдка вы дзейнічаеце ва ўгоду сваім жаданням, не думаючы пра іншых людзей. Цяпер вам прыйдзецца выпрабаваць гэта на сабе. Розныя негатыўныя падзеі, якія разгорнуцца вакол вас, можна назваць кармай, спасцігнуць якую і выправіць свае памылкі – ваша галоўная задача.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вялікае задавальненне і душэўны пад’ём прынясе час, праведзены з дзецьмі.



**РАК.** На душы надыходзіць спакой, справы спорацца, фінансавы стан спрыяльны. Да таго ж у вас з’явіцца здольнасць дастаткова моцна ўплываць на падзеі, што адбываюцца вакол вас, і атрымліваць з іх максімум карысці для сябе, не затрачваючы на гэта занадта шмат сіл.



**ЛЕЎ.** Сітуацыя можа скласціся неадназначна. З аднаго боку вы паведзяце сябе як прыстойны сем’янін. Але потым вамі завалодае халодны разлік, жаданне дасягаць пастаўленых мэтаў без уліку чыйго б там ні было інтарэсу. Такая актыўнасць ў справах можа пасварыць вас з многімі дзелавымі партнёрамі і калегамі, а ўжо з блізкімі людзьмі і тым больш.



**ДЗЕВА.** У вас зноў праявіцца схільнасць даваць людзям парады, вырашаць, хто мае рацыю і хто вінаваты, выносіць свае вердыкты, пры гэтым, цалкам не разабраўшыся ў справе. Вядома, такі падыход ніхто не ацэніць, і таму канфлікты могуць сур’ёзна абвастрыцца, паўстане неразуменне.



**ШАЛІ.** Падзеі будуць упарта заклікаць да вашаму розуму, да ўмення ўзважваць усе “за” і “супраць”. Ад вас спатрэбіцца прыняцце правільных рашэнняў і не ісці на поваdze ў эмоцый і тым больш патрэбаў іншых людзей, зусім адрозных ад вашых.



**СКАРПІЁН.** Эмоцыі пачнуць напаўняць ваша жыццё і ўплываць на погляды і патрэбы. Вам захочацца больш стабільнасці ў адносінах, абзавесціся сям’ёй, як ніколі раней, ярка прачнецца жаданне кахаць і быць каханай, хоць раней вы маглі ставіцца да гэтага абыякава. Нельга назваць гэтыя жаданні нязбытнымі марамі, у вас ёсць усе шанцы пачаць іх рэалізоўваць.



**СТРАЛЕЦ.** Уся ўвага будзе прыкаваная да паляпшэння свайго фінансавага становішча. Цяпер самы падыходны час для праходжання сумоўя ў пошуках новай працы.



**КАЗЯРОГ.** Гэты час дэпрэсіі і меланхоліі, сыходу ў сябе, пагружэння ў свой унутраны свет. Але і яго можна правесці з карысцю, калі вы зоймецеся самапазнаннем, аналізам праблем і развіццём сваёй асобы.



**ВАДАЛЕЙ.** У ваша жыццё ідуць перамены, і яны могуць досыць моцна паўплываць на ўсё ваша жыццё абсалютна ў любой яго сферы.



**РЫБЫ.** Хіба можна яшчэ чагосьці жадаць, калі і так усё добра, усё ёсць і ваша жыццё праходзіць у радасці і забяспячэнні? Увесь гэты перыяд вы будзеце як сыр у масле.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | | 5 | 9 | | | 2 |
| | | | | 1 | | 9 | 4 | |
| | | | | 3 | 2 | | | |
| | | | 3 | | | | 7 | 1 |
| | | 3 | | 4 | | 6 | | 9 |
| 9 | | | 6 | 7 | | | | 4 |
| | 8 | 5 | | 6 | 3 | | | |
| | 7 | | | | | | 8 | 3 |
| | | 4 | 5 | | | | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 4 | 7 | 8 | 5 | 9 | 3 | 1 | 2 |
| 5 | 3 | 2 | 7 | 1 | 6 | 9 | 4 | 8 |
| 8 | 1 | 9 | 4 | 3 | 2 | 7 | 6 | 5 |
| 4 | 6 | 8 | 3 | 9 | 5 | 2 | 7 | 1 |
| 7 | 5 | 3 | 2 | 4 | 1 | 6 | 8 | 9 |
| 9 | 2 | 1 | 6 | 7 | 8 | 5 | 3 | 4 |
| 2 | 8 | 5 | 1 | 6 | 3 | 4 | 9 | 7 |
| 1 | 7 | 6 | 9 | 2 | 4 | 8 | 5 | 3 |
| 3 | 9 | 4 | 5 | 8 | 7 | 1 | 2 | 6 |

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015


## ● НАДВОР'Е

**5 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +14 / +26 | | +14 / +20 | | +10 / +17 | | +8 / +20 | |
| | 744 | ↗ 2 | 746 | ↓ 4 | 748 | ↙ 4 | 745 | ↘ 2 |
| **Вільня** | +15 / +20 | | +9 / +17 | | +11 / +18 | | +12 / +20 | |
| | 751 | ↘ 4 | 754 | ↓ 4 | 756 | ↓ 3 | 752 | ↘ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 5.26
Захад 20.52
Даўжыня дня 15.26

Усход 1.11
Захад 9.15
Квадра 3




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -3,3 °C у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +29,3 °C у 1970 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 27 мм у 2005 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● **Дзіцячы цэнтр "Надзея" наведалі госці. На гэты раз з выхаванцамі пазнаёмілася трохкратная параалімпійская чэмпіёнка-лыжніца Святлана Стафаненка і беларускія футбалісты-фрыстайлісты.**



## ● НАВІНЫ

Дамовіліся з мужам: дзень ён купляе прадукты, дзень – я. Так і жывём: дзень – п'ём, дзень – ядзім.

***

Жонка выказала жаданне ахвяраваць сваё адзенне бедным, сем'ям, якія галадаюць. Я сказаў, што калі яе адзенне ім падыдзе, то не так яны і галадаюць. І сварка пачалася.

***

– Сёма, яшчэ раз пажартуеш наконт маёй фігуры, атрымаеш патэльняй у лоб! Ты мяне зразумеў?

– Канешне, Роза.

– Што ты зразумеў?

– Што твая лішняя вага мне рэальна пагражае!

## Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№18)

1. Імя, прозвішча____________________
2. Дата нараджэння ____________________
3. Клас
   Школа____________________
4. Населены пункт____________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ____________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам__________
12. Подпіс настаўніка____________________

## 21 мая – апошні дзень прыёму бланкаў акцыі "Дзясятачка"

Няўмольна набліжаецца да заканчэння навучальны год. А значыць, усё менш і менш часу застаецца ў вучняў гімназій і школ нашага рэгіёна для таго, каб атрымаць планшэт. Не забудзьцеся скарыстаць магчымасць.

У акцыі могуць удзельнічаць 12-гадовыя школьнікі школы ці гімназіі рэгіёна.

Вы можаце дасылаць адзнакі, зробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Вучні з класа, якія былі самыя актыўныя, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне 53-78-04 ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

Бланкі дасылайце на адрас: 222307, г. Маладзечна, вуліца Вялікі Гасцінец д. 143, ГЦ "Тройка", офіс 518, "Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Прыгадайце, хто і як навучыў вас катацца на ровары



**Вольга Мястоўская, энергетык, Маладзечна:**
– Тата навучыў у дзяцінстве.



**Вераніка Вайцюль, акушэрка, Вілейка:**
– Навучылі браты. Адразу трымалі ровар ззаду, а потым я азірнулася – а іх няма, еду сама.



**Аляксей Буркевіч, прадпрымальнік, Вілейка:**
– Сам. А што трэба, каб хто вучыў? Я нават не памятаю, што пачаў рабіць раней: хадзіць або ездзіць на ровары.



**Марыя Кіпель, студэнтка, Вілейка:**
– Тата вучыў. Спачатку на чатырохколавым. Два колы паступова прыбралі. Было страшна, часта зваліцца магла. Але цяпер катацца люблю.



**Сяргей Макарэвіч, намеснік дырэктара, Вілейка:**
– На дарослы ровар сеў гадоў у шэсць, гледзячы, як вясковыя дзеці на "ўзрослікаў" пад рамай катаюцца. Спачатку валіўся, але з якой пятай спробы атрымалася.



**Наталля Міхалевіч, студэнтка, Вілейка:**
– Тата навучыў на чатырохколавым, калі мне было тры гады.



**Уладзімір Садоўскі, інжынер, Маладзечна:**
– Здаецца, я заўжды ўмеў. У дзяцінстве быў ровар з маленькімі коламі, з якога ўсё пачалося. На летніх канікулах у вёсцы ўжо ганяў на "ўзросліках" і на дамскіх роварах.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№18 (1201) 4.05.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 97. Падпісана ў друк у 9.00 3.05.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.